**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК. Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года

№14(626) 5 красавіка 2012 года.

Кошт свабодны.





**27 сакавіка на глыбоцкім возеры Бяглец праходзілі абласныя вучэнні-семінары па выратаванні тапельцаў.** *Працяг тэмы на стар. 4. Фота Яўгена Самсонава.*

## «Банк БелЗЭБ» мае намер павялічыць выдачу крэдытаў

**«Банк БелЗЭБ» у 2012 годзе мае намер павялічыць аб'ём выдадзеных крэдытаў прадпрыемствам малога і сярэдняга бізнесу ў 2,2 разу. Пра гэта было заяўлена 30 сакавіка на агульным сходзе акцыянераў ААТ «Банк БелЗЭБ».**

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе банка, за апошнія тры гады колькасць кліентаў павялічылася на 2,3 тыс., або на 19%. Пры гэтым варта зазначыць, што найбольшы тэмп росту (110%) назіраўся ў 2011 годзе, калі ў цэлым за год кліенцкая база павялічылася на 1,3 тыс. кліентаў. Большасць з іх — гэта прадпрыемствы малога і сярэдняга бізнесу.

Адным з найважнейшых кірункаў дзейнасці ў «Банку БелЗЭБ» называюць працу на рынку рознічных паслуг. Сёлета банк увядзе новыя тэхналогіі для больш хуткага абслугоўвання ўкладчыкаў і крэдытаатрымальнікаў, пашырыць сваю прысутнасць у рэгіёнах.

Параметрамі дзейнасці ААТ «Белзнешэканамбанк» на 2012 год прадугледжаны рост сродкаў фізічных асоб не менш чым у 1,4 разу. Крэдытны партфель фізічных асоб прадугледжваецца нарасціць таксама ў 1,4 разу.

Актывы «Белзнешэканамбанка» летась узраслі ў 2,5 разу, і на 1 студзеня 2012 года іх аб'ём дасягнуў 12,4 трлн. рублёў. У тым ліку сродкі, накіраваныя ў эканоміку, склалі 6,69 трлн. рублёў і павялічыліся ў 3,3 разу.

Прыцягнутыя сродкі кліентаў на 1 студзеня гэтага года склалі 3,55 трлн. рублёў у эквіваленце і павялічыліся ў параўнанні з пачаткам 2011 года ў 2,7 разу. Сродкі банкаў (з улікам сродкаў Нацыянальнага банка) дасягнулі 7,13 трлн. рублёў і ўзраслі за год у 2,6 разу за кошт росту крэдытаў банкаў-нерэзідэнтаў на суму, эквівалентную 200 млн. долараў ЗША.

Нагадаем, у сакавіку 2012 года ААТ «Белзнешэканамбанк» абвясціла аб змене скарочанага наймення на ААТ «Банк БелЗЭБ» (раней — «БЗЭБ») падчас правядзення рэстайлінгу. Поўнае найменне банка засталося ранейшым.

*А. Арэшка, БелаПАН*

## Рознічныя цэны на асобныя маркі цыгарэт 1 красавіка павышаюцца на 3,1-4,7%

**У Беларусі 1 красавіка максімальныя рознічныя цэны на асобныя маркі цыгарэт павышаюцца на 3,1—4,7% у залежнасці ад маркі.**

На большасць марак цыгарэт максімальныя рознічныя цэны захаваныя на ўзроўні сакавіка 2012 года. Цэны павышаны на некаторыя маркі цыгарэт, што выpабляе ААТ «Гродзенская тытунёвая фабрыка «Нёман».

Згодна з інфармацыяй, апублікаванай на сайце Міністэрства па падатках і зборах, цэны на цыгарэты маркі «Мінск Superslims» і «Мінск 5 Superslims» павышаюцца на 4,7% да 3.350 рублёў за пачак, «Фэст», «Фэст 7» — на 3,8% да 2.700, NZ 8, NZ 10 — на 3,1% да 3.350 рублёў. Queen Charm, Queen Eleganse, Queen Menthol, Queen Elite Superslims, Queen Superslims — на 4,7% да 3.350 рублёў, Portal Superslims Gold, Portal Superslims Silver — на 2,2% да 4.700 рублёў.

Цана на цыгарэты NZ Black Compact, NZ Gold устаноўлена ў памеры 4.500 рублёў за пачак.

Апошняе павышэнне цэн на цыгарэты адбылося 1 сакавіка 2012 года ў сярэднім на 2,6—12,1%.

Нагадаем, згодна з Асобай часткай Падатковага кодэкса, з 1 студзеня 2012 года беларускія вытворцы і імпарцёры цыгарэт маюць права дэклараваць максімальную рознічную цану не часцей, чым раз у месяц. Раней рознічныя цэны рэгуляваліся Міністэрствам эканомікі.

*Марына Носава, БелаПАН*

Глыбоцкі раён

# Усё выразней контуры свята

■ Станіслаў Раманчук

**Пры падрыхтоўцы да правядзення ў пачатку верасня ў Глыбокім Дня беларускага пісьменства яго арганізатары сутыкнуліся з дзвюма галоўнымі праблемамі: дэфіцытам часу і недастатковымі аб'ёмамі фінансавання.**

Аднак на чарговым пасяджэнні раённага аргкамітэта па правядзенні ўрачыстасцей аптымізму не гублялі і правільна вырашылі, што аб'ёмная праца – гэта толькі першы этап тых пераўтварэнняў, якія трэба будзе і далей зрабіць у райцэнтры, які праз два гады адзначыць сваё 600-годдзе. Тым не менш і сёлета можна абнавіць каля сотні розных аб'ектаў на глыбоцкіх вуліцах, якія абзавядуцца новымі прыпынкамі, светлафорамі і прыгожымі кіёскамі “Саюздруку”. Вялікі аб'ём новага асфальтавання зробяць таксама ў райцэнтры, а цэнтральны ўнівермаг пераўторыцца ў сучасны гандлёвы цэнтр “Родны кут”. Ужо дакладна вядома, што пакіне сваё месцазнаходжанне побач з хрысціянскімі храмамі помнік Леніну, на які звяртаюць увагу хіба што людзі старога пакалення. Парадуе гараджан, што ў іх з'явіцца цэлая Алея гонару з барэльефамі знакамітых землякоў. Да дня роднага слова таксама будзе выпушчана шмат разнастайнай сувенірнай прадукцыі. Першыя яе віды ўжо пабачылі ўдзельнікі штаба па арганізацыі работ, які прайшоў пад кіраўніцтвам кіраўніка Глыбоцкага раёна Алега Морхата. Да самога свята застаецца яшчэ каля пяці месяцаў, і яны для мясцовых жыхароў стануць перыядам напружанай працы, якая будзе прадоўжана і ў наступныя гады да самога юбілею горада Глыбокае.



Пастаўскі раён

# Па - праву лепшыя

■ Кастусь Александровіч

**Сваё прафесійнае свята работнікі прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Пастаўскага раёна сустрэлі ў прыўзнятым настроі.**

Напярэдадні ў буйны, разгалінаваны калектыў прыйшла радасная навіна, што іх родны райцэнтр Паставы стаў зноў пераможцам рэспубліканскага агляду-конкурсу па добраўпарадкаванню і санітарнаму стану сярод гарадоў трэцяй групы з насельніцтвам да 50 тысяч чалавек разам з Калінкавічамі і Смаргонню. Урадавая камісія высветліла, што на Пастаўшчыне, сапраўды, ужо некалькі гадоў запар шмат робяць для таго, каб квітнеў родны край, нагадваў утульны еўрапейскі гарадок. Толькі на бягучы рамонт вуліц, тратуараў і плошчаў летась тут выкарысталі 750 мільёнаў рублёў. Было капітальна адрамантавана яшчэ 20 жылых дамоў, значныя сродкі пайшлі на бягучы рамонт жылога фонду, абнаўленне вадаправодна-каналізацыйнай гаспадаркі не толькі ў горадзе. У прыватнасці, у аграгарадках Дунілавічы і Лынтупы запусцілі ў эксплуатацыю станцыі абезжалезвання вады. Сама ж служба добраўпарадкавання і саначысткі горада – адна з асноўных у райкамунгасе і яе сілкуе тое, што навядзеннем парадку вакол займаюцца штодзённа тысячы гараджан, калектывы прадпрыемстваў і арганізацый. У Паставах ужо каля 10 дзеючых фантанаў, штогод высаджваюцца дзясяткі тысяч новых кветак і людзі жыць стараюцца сярод такой прыгажосці, падтрымліваць яе.

Верхнядзвінскі раён

# Амаль пудовыя надоі

■ Чэслаў Якубовіч

**Па ўсёй Віцебскай вобласці зараз пачала разгортвацца маштабная праца па рэканструкцыі састарэлых ферм з ручным даеннем кароў.**

На месцах запланавана ў кожным калгасе такім чынам сёлета абнавіць па аднаму памяшканню, забяспечыць іх хоць бы малакаправодамі. А вось у самым “паўночным” Верхнядзвінскім раёне, дзе засталіся 14 гаспадарак, пайшлі нават далей. Тут спадзяюцца сёлета пабудаваць яшчэ 6 новых і завяршыць рэканструкцыю 15 старых ферм. І гэта задача ў рэгіёне ўпаўне рэальная, бо ён з'яўляецца сёння лідарам на Віцебшчыне па развіцці малочнай жывёлагадоўлі. У краі, які калісьці адставаў, зараз сутачныя надоі малака на карову самыя высокія – амаль 15 літраў у суткі. Невыпадкова, што тут з'явілася першая ў Беларусі сучасная ферма з даярамі-робатамі яшчэ ў 2008 годзе. Цяпер мадэрнізаваныя малочнатаварныя фермы з камп'ютарным упраўленнем, даільнымі заламі, аўтаматычным паеннем з'явіліся яшчэ ў шасці вёсках раёна. Поўнасцю тут абнавілі апошнім часам і статак з высокапрадукцыйных рагуль, палепшылі кармавую базу. У выніку не стала ніводнай стратнай гаспадаркі, прыкметна павялічыліся і заробкі людзей на фермах. У раёне дасягнулі 90-працэнтнай таварнасці малочнай прадукцыі, прычым львіная доля якой рэалізуецца на мясцовы масласырзавод класам “экстра”. Нават у зімовыя месяцы на перапрацоўку на завод штодзень дастаўлялася каля 190 тон малака. З выхадам неўзабаве жывёлы на пашу сырадою яшчэ больш прыбавіцца, і па разліках, прыбытак ад дзейнасці ферм дасягне амаль 16 млрд. рублёў да канца года.

# Лічба нумара

**27%** - столькі насельніцтва Беларусі цяпер, па дадзеных Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, з'яўляюцца пенсіянерамі. Усяго ж у нашай краіне жыве 2,5 мільёны грамадзян, атрымальнікаў розных пенсій, на сто працуючых суайчыннікаў такім чынам прыходзіцца ўжо 57 чалавек на заслужаным адпачынку. З кожным годам нацыя старэе, павялічваецца колькасць пажылых людзей і да 2020 года на 100 работнікаў будзе нават 67 пенсіянераў.

Менавіта гэта непрыемная тэндэнцыя выклікала, як усе ведаюць, новаўвядзенні ў пенсійным заканадаўстве, з'яўленне адпаведнага прэзідэнцкага Указа № 136. Сёлета з 1 кастрычніка патэнцыйным беларускім пенсіянерам прапанавалі добраахвотна адкласці свой выхад на пенсію. У сродках масавай інфармацыі з'явіліся дакладныя разлікі магчымых памераў будучых пенсій па новай схеме. Прайшла адпаведная нарада на вышэйшым узроўні, а паколькі прынятыя дакументы былі дэталёва распрацаваны загадзя, праз два дні 18 сакавіка тэкст указа быў падпісаны А. Лукашэнкам.

У гэтым дакуменце галоўнае, што ўстаноўлены новыя параметры павелічэння памераў пенсіі: на 6, 8, 10 і 12 % заробку адпаведна за кожны першы, другі, трэці і чацвёрты гады работы пры працягу працы без атрымання дзяржпенсіі і дасягненні існуючага пенсійнага ўзросту. За кожны 5-ты год такой працы і наступныя будзе 14 % павелічэнне пенсій, а ўказаныя памеры сумуюцца паміж сабой. Цікава, што за кожныя 2 месяцы няпоўнага года такое павелічэнне складзе 1 % заробку, які прымаецца для налічэння пенсій. Яны таксама сумуюцца з астатнімі.

Здавалася б, усё зразумела, ды і аналагічныя меры ўжо былі ў пенсійным законе і прымяняліся з 1998 года. Нічога ў выплаце пенсій працуючым пенсіянерам не змянілася, яны і далей могуць працаваць (калі маюць здароўе і задавальняюць працадаўцу) і атрымоўваць свае пенсіі. Адзінае, што цяпер пры налічэнні пенсій за перыяды вучобы, службы ў арміі, догляду за малымі дзецьмі ( тады не ўплочваліся абавязковыя страхавыя ўзносы ) замест неіснуючых заробкаў будзе прымяняцца ўмоўны даход – 40 % сярэдняй зарплаты ў Беларусі за адпаведныя месяцы.

Зараз кіраўніцтва краіны разлічвае, што новаўвядзенні па пенсіях найперш зацікавяць беларускіх жанчын з-за існуючай дэмаграфічнай сітуацыі. Яны на 5 гадоў раней мужчын ідуць на заслужаны адпачынак, у сярэднім на пенсіі да сваёй смерці жывуць дзесьці яшчэ чвэрць стагоддзя, альбо 24,6 гады. Беларускія мужчыны ў сярэднім жывуць 65 гадоў і на пенсійны фонд краіны не аказваюць такога ціску, як кабеты. У першую чаргу дзяржава стане стымуляваць менавіта жанчын адкладваць свой выхад на пенсію і працаваць далей, каб забяспечыць сабе бязбедную старасць у паважаным узросце пасля 75 гадоў.

Пакуль жа зазначым, што хоць у нас пенсійны ўзрост у Еўропе самы маленькі, як ва ўкраінцаў і ў рускіх. Аднак і памеры беларускіх пенсій на фоне вельмі высокіх цэн таксама меншыя, у параўнанні з нашымі суседзямі ў Прыбалтыцы і Усходняй Еўропе. У сакавіку ў сярэднім айчынныя пенсіянеры атрымоўвалі па 1,222 млн. рублёў. Праўда, той, хто пайшоў на пенсію ў 2006 годзе, тады атрымоўваў на рукі ў сярэднім па 130 долараў. Напрыканцы мінулага года нашы пенсіянеры ў эквіваленце пасля абвалу нацвалюты задавальняліся ўжо толькі 113 $ у месяц. І не дзіўна, што кожны пяты з іх зараз, а гэта паўмільёна чалавек працягвалі на пенсіі працаваць і трацілі грошы на дапамогу дзецям і ўнукам.

Цяпер вось у людзей старэйшага пакалення з'явіўся выбар, ім трэба браць калькулятары і лічыць, што рабіць далей. Па сутнасці, мы ўшчыльную наблізіліся да прынцыпаў страхавой пенсійнай сістэмы. Наперад лічыць, праўда, большасць з іх да гэтага не займаліся. Але добра, што выбар кожнага з такіх людзей будзе добраахвотным. І яшчэ адно галоўнае: у Беларусі можна і надалей працаваць і атрымоўваць пенсію, ніхто ў вас яе забіраць не будзе. Адзінае, каб вы спраўляліся са сваімі абавязкамі, а адмовіцца ад атрымання пенсіі можна цяпер на любы тэрмін, калі пажадаеце. У каго здароўе добрае і праца не пыльная, той выйграе адназначна, а новы Указ пачне дзейнічаць 1 кастрычніка.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 05.04.12 | | | | Пятніца 06.04.12 | | | | Субота 07.04.12 | | | | Нядзеля 08.04.12 | | | | Пнд. 09.04.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | 0 | 0 | +3 | 0 | -3 | +1 | +7 | +3 | +2 | +3 | +5 | +4 | +3 | +4 | +8 | +5 | +3 | +1 | +1 |
| Ціск | 741 | 743 | 745 | 748 | 748 | 748 | 745 | 743 | 739 | 738 | 734 | 734 | 732 | 734 | 733 | 734 | 732 | 732 | 730 |
| Вільготнасць | 93 | 99 | 72 | 82 | 86 | 80 | 41 | 73 | 89 | 100 | 89 | 93 | 92 | 99 | 79 | 87 | 88 | 98 | 91 |
| Вецер м/сек | 6 С-В | 5 С-В | 3 С | 1 С-З | 2 Ю | 3 Ю | 6 Ю | 4 Ю | 4 Ю | 3 В | 2 В | 2 С-В | 1 С-В | 2 С-В | 2 С | 4 С-В | 6 С-В | 8 С-В | 6 С |

## Дзень за днём

**У пачатку вясны запасы нерэалізаванай гатовай прадукцыі ў Беларусі дасягнулі 17,5 трлн. рублёў, альбо 48,9 % да сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці. Прапановы Беларусі па рэфармаванні ЕўрАзЭС не знайшлі ў Маскве падтрымкі, у лепшым выпадку гэты дагавор будзе падпісаны толькі да 1 студзення 2015 года з-за існуючых пакуль рознагалоссяў з боку Казахстана. Аднак беларускія кампаніі атрымалі прэферэнцыі пры дзяржзакупках у Расіі. З кастрычніка для беларусаў пачнецца мяккая пенсійная рэформа, бо ўжо да 2015 года колькасць пенсіянераў дасягне 60 на 100 працуючых. Мільёны суайчыннікаў у чаканні надыходу радаснага і светлага каталіцкага Вялікадня, праваслаўныя рыхтуюцца сустрэць Вербную нядзелю.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя.** Дзясяткі супрацоўнікаў спецслужб і мірных грамадзян загінулі ў выніку выбухаў у сталіцы, паўстанне народа супраць рэжыму працягваецца 2-гі год, загінула 8 тыс. чалавек.

**Катар.** Тэлеканал Al Jazeera паказаў дакументы, вывезеныя ўцекачом высокапастаўленым аналітыкам аб сапраўдным звярыным твары правячага ў Сірыі рэжыму Башара Асада.

**Францыя.** Віцэ-спікер Еўрапарламента Я. Пратасевіч заявіў, што штаты пасольстваў ЕС у Беларусі могуць быць скарочаны нават да консульскага ўзроўню з-за яе адносін да Захаду.

**Расія.** РФ зацікаўлена ў тым, як зазначыў яе міністр замежных спраў Сяргей Лаўроў, каб Беларусь далучылася да мараторыя на смяротнае пакаранне, стала членам Савета Еўропы.

**КНДР.** Урад адной з бяднейшых і напоўгаладных краін свету аб'явіў, што ў красавіку праведзе запуск штучнага спутніка Зямлі да 100-годдзя свайго лідара Кім Ір Сена.

**Аўстралія.** Краіна першая пачала продажы новага планшэтнага камп'ютара трэцяга пакалення iPad кампаніі Apple, паўсюдна ў свеце ў крамах узніклі шматтысячныя чэргі.

**Афганістан**. Яшчэ больш абвастрылася абстаноўка ў Кабуле пасля крушэння верталёта з турэцкімі ваеннымі,дзе загінулі 12 вайскоўцаў. На месцы падзення дзве жанчыны і 2 іх дзяцей.

**Украіна.** Кампанія "Нафтагаз", як пацвердзіў яе кіраўнік Яўген Бакулін, пачала перамовы аб закупках 10 млрд. куб. газу ў Славакіі, Румыніі, Турцыі, ён танней там за расійскі.

**Польшча.**Не дабіўшыся зніжак на расійскі газ, нацыянальная нафтагазавая кампанія вырашыла скараціць сёлета імпарт газу з Расіі на 15 %, што прапісана ў кантракце.

**Францыя.** У краіне нават прыпынілі прэзідэнцкую выбарчую кампанію пасля забойства злачынцам арабам траіх ваеннаслужачых і чатырох чалавек потым ля яўрэйскай школы.

**Японія.** Ужо 80 % японцаў, па апытаннях грамадскай думкі, выказаліся за адмову краіны ад ядзернай энергетыкі, пасля атамнай бяды летась тут працуюць толькі 2 з 54 рэактараў.

**Германія.** Пасля адмовы ад 17 старых ядзерных рэактараў урад краіны вырашыў стварыць сетку ветраных электрастанцый, на праект пойдзе 200 млрд. еўра, 8 % штогадовага ВУП.

**Грэцыя.** Улады выявілі 190 тысяч грэкаў, якія незаконна атрымоўвалі дапамогі па лжэінваліднасці, зімой спынілі выдачу 63 тысяч пенсій ілгунам і нават нябожчыкам.

**Швейцарыя.** Міжнародная федэрацыя пацвердзіла, што ў маі на кангрэсе IIHF у Хельсінкі Беларусь можа пазбавіцца права правядзення чэмпіянату свету па хакеі 2014 года.

**Мексіка.** Каля тысячы розных будынкаў былі разбураны ў краіне ў выніку магутнейшага землятрусу магнітудай 7,8 бала па шкале Рыхтара, звесткі аб ахвярах удакладняліся.

# З 1 красавіка базавая велічыня складае 100 тысяч рублёў, а базавая арэндная велічыня — 54 тысяч рублёў.



■ БелаПАН

**У Беларусі базавая велічыня з 1 красавіка 2012 года складае 100 тыс. беларускіх рублёў. Гэта прадугледжана пастановай Савета міністраў № 1785 ад 30 снежня 2011 года. Да павышэння базавая велічыня складала 35 тыс. рублёў.**

Базавая велічыня ў Беларусі з'яўляецца ўніверсальнай меркай для рознага кшталту плацяжоў. Да базавай велічыні прывязаны і памеры сацыяльны выплат, напрыклад дапамог і стыпендый, і рознага кшталту штрафы, а таксама стаўкі дзяржаўнай пошліны і арэнднай платы.

Апрача таго, 1 красавіка ўводзіцца базавая арэндная велічыня, якая да 1 красавіка 2013 года будзе складаць 54 тыс. рублёў.

Гэта зацверджана ўказам № 150 «Аб некаторых пытаннях арэнды і бязвыплатнага карыстання маёмасцю», падпісаным Аляксандрам Лукашэнкам 29 сакавіка.

Раней стаўка арэнднай платы была прывязана да базавай велічыні. Цяпер памер базавай арэнднай велічыні будзе штогод устанаўлівацца Саветам міністраў з улікам гадавога ўзроўню інфляцыі (індэкса спажывецкіх цэн за мінулы год у дачыненні да папярэдняга) і будзе прымяняцца штогод з 1 красавіка.

Дакументам таксама адмяняецца дзяржаўнае рэгуляванне памеру арэнднай платы за гандлёвыя месцы на рынках і ў гандлёвых цэнтрах, што знаходзяцца ў прыватнай уласнасці. Фарміраванне арэнднай платы за такія гандлёвыя месцы будзе ажыццяўляцца ў адпаведнасці з нормамі Грамадзянскага кодэкса па ўзгадненні бакоў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Старшыня Нацбанка РБ Н. Ермакова пацвердзіла, што не плануецца выпускаць купюры ў 500 тысяч рублёў і манеты, лепш правесці дэнамінацыю нацыянальнай валюты.

**Астравец.** Пазней намечанага, толькі ў 2017 годзе, паведаміў першы віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка, адбудзецца тут запуск у эксплуатацыю 1-га блока атамнай станцыі.

**Мінск.** У Нацыянальным аэрапорце не пусцілі ў РБ дырэктара Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра Астрыд Зам, хоць у яе была ўязная віза, паўстае жалезная заслона.

**Шклоў.** На радзіме А. Лукашэнкі пачаліся работы па стварэнні турыстычнага воднага маршрута "З вараг у грэкі" па рацэ Днепр, але грошай на гэты праект пакуль не хапае.

**Слонім.** Міліцыя пачала пошукі невядомага, які патэлефанаваў касіру мясцовага вакзала і паведаміў аб быццам замініраванні пасажырскага дызель-цягніка Баранавічы-Гродна.

**Астравец.** Райпракуратура затрымала 35-гадовага вяскоўца, які прызнаўся, што пасля чатырох дзён у запоі ён дома згвалтаваў 13-гадовую дачку. Цяпер яму "свецідзь" 13 гадоў турмы.

**Гомель.** Праверкі Дзяржкантролем рабочых сталовак горада выявілі, што людзей шмат дзе кормяць дорага, пратэрміновымі прадуктамі, з парушэннямі тэхналогій прыгатавання ежы

**Смалявічы.** Па рашэнні аблвыканкама за наведванне мемарыялу "Курган Славы" за ўзыходжанне наверх сталі браць грошы: білет каштуе ад 1500 (дзеці) да 3000 рублёў.

**Мінск.** Былы глава Нацбанка С. Багданкевіч заявіў, што для РБ лепей бы было выпусціць банкноту 1 млн. рублёў, бо іх выпуск не танны і гэта зменшыць колькасць грошай у абарачэнні.

**Добруш.** Цудам напрыканцы зімы 58-гадовы жыхар райцэнтра выратаваўся ад смерці на пажары ў сваім доме. Ён адмарозіў ногі, а пасля выпіскі з бальніцы праз суткі загінуў ад агню.

**Гродна.** 60-гадовы гараджанін вечарам напаў на сваю суседку, каб знішчыць яе сабаку той-тэр'ера вагой 3 кг, якая быццам перашкаджала яму жыць, міліцыя пачала следства.

**Брэст.** На граніцы высадзілі з поезда на Чэхію палітыка В. Вячорку з 14-гадовай дачкой, хоць у яго была з сабой даведка аб тым, што выезд за граніцу яму не абмежаваны.

**Мазыр.** Ноччу на бульвары Юнацтва невядомыя апаганілі праваслаўную царкву Іаана Прадцечы, раней сатаністы спалілі тут такі ж храм, у 2007 годзе спрабавалі спаліць касцёл.

**Нарач.** На мясцовым масласырзаводзе пачалі выпуск аналагу замежных далікатэсаў – сыроў "Рафорці" з блакітнай цвіллю тыпу ракфор, навінка з'явіцца ў продажы ў маі.

**Гродна.** Хакейны клуб "Нёман" стаў самым багатым у Беларусі летась са штомесячнай зарплатай 29,8 мільёна рублёў, самым бедным – ХК "Віцебск" з заробкамі 2,7 мільёна рублёў.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** На горадзе пайшлі размовы, што ўжо пачалася падрыхтоўка да продажу буйнога нафтахімічнага комплексу "Нафтан-Палімір" расійскай кампаніі "Лукойл".

**Віцебск.** З абласнога і раённых бюджэтаў на рэканструкцыю 228 ферм выдзелілі 116 млрд. рублёў, сродкаў не хапае, 827 МТФ вобласці старой пабудовы з ручным даеннем кароў.

**Докшыцы.** На дапамогу калгасам раёна ў правядзенні веснавой сяўбы з горада прыслалі 64 механізатары, сёлета гаспадаркам трэба пасеяць азімыя на плошчы 25,8 тысяч гектараў.

**Браслаў.** Пасля закрыцця на рэканструкцыю пункта пропуску ў Верхнядзвінскім раёне на выезд з РБ на мяжы з Латвіяй чарга фур дасягнула 10 км, у ёй стаялі больш 500 грузавікоў.

**Расоны.** Чацвёра школьнікаў, пацярпелых на пажары, вярнуліся дамоў з абласной бальніцы, юнака трэба апераваць, дзяўчыне ў траўмай пазваночніка - далей лячыцца.

**Віцебск.** Каля 20 пытанняў абмеркавалі ў абласным цэнтры ўдзельнікі трэцій па ліку аб'яднанай калегіі Мытнага саюза ФМС Расіі, ДМК Беларусі і КМК Казахстана.

**Гарадок.** Цэлы год правядзе ў калоніі пенсіянер па прыгаворы суда за лоўлю рыбы на возеры Ціоста забароненымі сродкамі, у яго канфіскавалі надуўную лодку і 16 сетак.

**Полацк.** У горадзе адбыўся заключны фінал рэспубліканскай алімпіяды сярод школьнікаў па нямецкай, французскай мовах, праз тыдзень - сярод знаўцаў англійскага і іспанскага.

**Асвея.** У гарпасёлку з насельніцтвам больш тысячы чалавек засталося ўсяго 7 кароў на панадворках жыхароў, ён пакрыху вымірае, дагэтуль тут няма ўчастковага інспектара .

**Сянно.** Суд прыгаварыў кіраўніка аднаго з аддзелаў банка да 7 гадоў, дырэктара прыватнай фірмы – да 7,5 гадоў пазбаўлення волі за крадзеж з Белаграпрамбанка 830 мільёнаў рублёў.

**Паставы.** З мэтай пераймання вопыту ўдалага развіцця турргэгіёна на базе раёна прайшоў рэспубліканскі семінар для айчынных турфірм, штогод тут бываюць тысячы турыстаў.

**Віцебск.** Родныя растралянага 26-гадовага Уладзіслава Кавалёва заявілі, што не вераць у тое, што ён быў вінаваты і , нягледзячы на смерць, будуць дабівацца ягонай рэабілітацыі.

**Верхнядзвінск.** З-за моцнага ветру часткова вечарам абрушыўся дом з 2-х пакояў у вёсцы Бароўка, гаспадыня і яе бацька-пенсіянер не пацярпелі, дасталося яшчэ 9 раёнам вобласці.

**Новалукомль.** Пасля дзвюх гадзін пошукаў вадалазы знайшлі на глыбіні 6 метраў на мясцовым возеры цела 72-гадовага пенсіянера, які патануў, калі праваліўся пад веснавы лёд.

**Мёры.** Неадназовы чэмпіён вобласці ФК "Мёры" займеў спонсараў і падаў заяўку на ўдзел ў чэмпіянаце РБ па футболе (2-я ліга), раней там гулялі каманды з Глыбокага і з Пастаў.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Вучэнні па выратаванні тапельцаў на возеры Бяглец



Працяг.
*Пачатак на стар. 1.*

■ Яўген Самсонаў

**27 сакавіка на глыбоцкім возеры Бяглец праходзілі абласныя вучэнні-семінары па выратаванні тапельцаў.**

Паказальна-трэніровачнае мерапрыемства ладзілі супрацоўнікі Глыбоцкага РАНС пад кіраўніцтвам намесніка начальніка аддзела Уладзіміра Шашка.

Удзел у семінары прынялі намеснікі начальнікаў МНС з усіх гарадскіх і раённых аддзелаў Віцебскай вобласці, на чале з намеснікам начальніка ўстановы Віцебскага абласнога ўпраўлення МНС Аляксандрам Ярмашом.

Прысутныя, асабліва абласное кіраўніцтва, засталіся задаволеныя вынікамі тактыка-спецыяльных заняткаў па выратаванні тапельцаў на лёдзе. Як патлумачыў у інтэрв'ю А. Ярмаш, каманда пазаштатных глыбоцкіх вадалазаў-выратавальнікаў з заданнем справілася паспяхова, дзейнічала аператыўна і зладжана. Усяго ў вобласці існуе адна штатная, восем пазаштатных вадалазна-выратавальных службаў і трынаццаць гуртоў выратавання на вадзе. Менавіта на такіх вучэннях яны і адточваюць сваё майстэрства.



# Марыя Баравік прэзентавала дзве новыя кнігі паэзіі

■ Кастусь Шыталь

Паэтка Марыя Баравік прэзентавала чытачам, якія сабраліся ў глыбоцкай бібліятэцы, дзве новыя кнігі паэзіі – "Камень смутку" і "Прымі, душа, таямніцу".

Вершы, якія склаліся ў кнігі, былі напісаныя на працягу апошніх некалькіх год. Выйшлі ў свет дзякуючы глыбоцкаму выдавецтву «Прэфект-інфо».

*"Гэтыя кнігі напісаныя не натхненнем, яны напісаныя слязьмі"*, - кажа паэтка. Ладная частка вершаў прысвечана памяці Сяргея, памерлага мужа Марыі Баравік.

У вершах – глыбокія асабістыя перажыванні, успаміны, якія пераплятаюцца з рэлігійным досведам паэткі. Яна кажа, што перажыванні, звязаныя са стратай любімага чалавека, умацавалі яе веру ў Бога.

*"Я не лічу, што мая кніга змрочная. Яна філасофская"*, - кажа паэтка. У вершах, прачытаных падчас прэзентацыі, яна разважае пра жыццё і смерць, звяртаецца да Бога, вяртаецца ў памяці да памерлага мужа і памерлага брата.

*"Мой муж, калі быў п'яны, запытваў: "Ці любіш мяне?" Мяне гэта моцна раздражняла. А аказалася, што яго люблю, люблю па-Боску"*, - распавяла паэтка чытачам.

Сяргей жа нарадзіўся ў атэістычнай сям'і і прыняў хрост толькі за дзесяць дзён да смерці. "Ледзь-ледзь дайшоў да царквы", - успамінае Марыя Баравік.



Фота Ул. Скрабатуна

У другой кнізе – "Прымі, душа, таямніцу" – шмат вершаў на рэлігійную тэму.

Марыя Баравік кажа, што часта сніла новыя свае кнігі. "Калі хлопцы [супрацоўнікі выдавецтва "Прэфект-інфо"] выдалі кнігу, я ўзгадала гэтыя сны", – кажа паэтка.

Удзел у прэзентацыі прыняла Марыя Новікава, дачка Марыі Баравік. Яна выкладае музыку ў школе ў Самахвалавічах пад Мінскам ды грае на арганах у сталічным касцёле святых Сымона і Алены. Марыя грала на фартэп'яна і спявала песні на словы маці, а таксама выканала некалькі ўласных твораў.

Напрыканцы паэтка падзялілася сваімі творчымі планамі. Распавяла, што мае яшчэ нявыдадзеную прозу. Плануе выдаць кніжку казак для дзетак, а таксама надрукаваць свае новыя філасофскія вершы. Таксама хоча пакінуць пасля сябе біяграфічныя нататкі.

*"Мы такія часовыя – хоць бы паспець нешта зрабіць"*, – падсумавала Марыя Баравік.

# Каманда Дэпартамента аховы – пераможца ў гіравым спорце

■ Яўген Самсонаў

**31 сакавіка ў спартыўнай зале Глыбоцкага ЦФАП адбыліся спаборніцтвы па чарговым відзе спорта раённай круглагадзічнай працоўнай Спартакіяды – гіраваму спорту.**

За званне мацнейшага асілка у пяці вагавых катэгорыях да 60 кг., 70 кг., 80 кг., 90 кг і звыш 90 кг. у асабістым і камандным заліку змагалася восем каманд.

Вага гіры 24 і 32 кг. Практыкаванні: рывок, штуршок.

У асабістым заліку да 60 кг пераможцам стаў А. Краснадубскі (Ахова), выступаючы адзіны ў ганаровым адзіноцтве. Пераможцамі і прызёрамі ў астатніх вагавых катэгорыях сталі: да 70 кг. – 1 месца – Мікалай Федаровіч (Ліцэй), 2 – Вікенцій Шымко (МКК), 3 – Віктар Каралькоў (ЖКГ); да 80 кг. – 1 – Дзяніс Стахоўскі (Ахова), 2 – Сяргей Лукашэвіч (Ліцэй), 3 – Аляксей Новік (ЖКГ); да 90 кг. – 1 – Сяргей Елубаеў (Ліцэй), 2 – Юрый Баран (РАУС), 3 – Аляксандр Статкевіч (ККЗ), звыш 90 кг. – 1 – Андрэй Пахілка (ККЗ), 2 – Андрэй Сырапятка (Ахова), 3 – Руслан Хайноўскі (ЖКГ).

У камандным заліку каманды Ахова і Ліцэй набралі аднолькавы лік балаў – 9. Але па суме пад'емаў (Ахова 150, а Ліцэй 144) першае месца прысуджана Ахове, другое – Ліцэю. Трэцім прызёрам стала каманда РАУС. Каманды ЖКГ, ККЗ, РАЙПО, МКК, Мясакамбіната падзялілі адпаведна з 4 па 8 месцы.



Руслан Хайноўскі, ЖКГ.



Андрэй Пахілка – чатыры пуды 20 разоў.



Аляксей Новік



Пераможцы спаборніцтваў.

# Мястэчка Глыбокае



Аляксандр Івашчонак,
*бакалаўр гісторыі, г.Нэапаль, Італія.*

**Працяг.**

*Пачатак у №4(616) , №5 (617), №6 (618), №7(619), №8(620), №9 (621), №10(622); №11 (623), №12 (624), №13(625) за 2012 год.*

**Публікацыя захоўвае стыль і правапіс аўтара.**

## Катаваньні ў мястэчку. 1831 г.

Адным з найбольш прыкрых эпізодаў гісторыі нашае Глыбоччыны зьяўляецца год 1831 г., а дакладней месяц чэрвень. Менавіта ў гэтым часе ў мястэчка прыехаў найвялікшы “кат Літвы”[1] альбо, інакш кажучы, “Вешальнік” – Міхаіл Мураўёў, на той час магілёўскі губэрнатар. Менавіта ў мястэчку Глыбокім Мураўёў распачаў сваю кар’еру бязлітаснага ката жыхароў ВКЛ, менавіта ў Глыбокім выйшаў на верх яго крыважэрны характар.

Тэатрам гэтай бязлітаснай і нялюдзкай драмы сталіся падзямельлі кляштара Кармэлітаў босых у мястэчку Глыбокае. Як ужо ўзгадвалася, паўстанцы былі змушаныя пакінуць мястэчка пад канец траўня 1831 г. пад напорам войскаў Саф’янава. Настуным крокам расейскіх акупантаў была расправа з паўстанцамі, а дакладней ня з самімі паўстанцамі, а з іх патрыятычнымі марамі аб адраджэньні Рэчы Паспалітай. Менавіта для гэтага ў Глыбокае прыбыў Мураўёў, прыбыў перадусім не як кат, якім стаўся, але як “ласкавая рука” расейскага цара, які хацеў даравать паўстанцам іх правіны ў замен за іх патрыятызм. Аднак бязлітасны Мураўёў быў больш услужлівы, чым таго вымагаў сам цар. Варта прыгадаць два царскія ўказы ад 6 траўня і 4 чэрвеня 1831 г., згодна зь якімі цар дараваў правіны ўсім паўстанцам, якія прызнаваліся ва ўдзеле ў паўстаньні і выказвалі сваю лаяльнасьць у стасунку да Расеі. Усіх гэтых паўстанцаў улады павінныя былі адпускаць бяз усялякіх праблемаў, так, як гэта рабіў Туталмін, аднак Мураўёў абраў іншую тактыку.

Тактыкай “ката Літвы” было ня толькі затрыманьне паўстанцаў, іх катаваньне, але яшчэ кожны з паўстанцаў павінен быў адракчыся ад сваіх ідэалаў, выдаць сваіх паплечнікаў і зрабіцца паслухмяным грамадзянінам Расеі. Гэтую тактыку вельмі пасьпяхова Мураўёў распачаў у падзямельлях кляштара Кармэлітаў, якія перарабіў у вязьніцу і катавальню. Сам затрымаўся ў кляштары.

Варта прыгадаць, што некалькі манахаў Кармэлітаў прыняло актыўны ўдзел у паўстаньні. Браў удзел таксама і сам прыёр – айцец Уладыслаў Казакевіч, акрамя таго пробашч айцец Рамуальд Глінскі. Таму прыём Мураўёва зааргානізаваў айцец Панкрацы Крушынскі, які быў эканомам кляштара. Айцец Панкрацы быў вельмі мудрым чалавекам і адразу распазнаў характар Мураўёва, які быў вельмі ўражлівы[2] на захаваньне людзей. Таму Крушынскі, каб ашукаць Мураўёва і ўратаваць паўстанцаў, хацеў прадставіць мястэчка як паслухмянае расейскім уладам. Каб задаволіць пыху “Вешальніка”, Крушынскі даў яму той самы пакой, дзе затрымаўся Напалеон, а сам прыём быў зроблены з вялікім гонарам.

Аднак у мястэчку не было ані замку, ані вязьніцы, таму Мураўёў прыдумаў стварыць, дзеля сваіх бязлітасных планаў, вязьніцу ў падзямельлях. Нягледзячы на царскія ўказы Мураўёў арыштоўваў усіх паўстанцаў – і тых, каго злавіў, і тых, хто сам прыйшоў. Паволі падзямельлі кляштара пачалі запаўняцца. Што рабіў Мураўёў з паўстанцамі?

Мураўёў быў бязлітасным катам. Перш за ўсё пастанавіў усіх паўстанцаў сялян і мяшчан высылаць ў Сібір альбо забіраць ў рэкруты, а арыштоўваць толькі шляхту. На пачатку арыштаваных замыкалі ў падзямельлях кляштара ў Глыбокім, а пасьля Мураўёў высылаў каго ў вязьніцу ў Дзісну (18 чалавек), каго ў Дынабург (43 чалавекі), каго ў Полацк (21 чалавек).

Першым арыштаваным быў кіраўнік паўстаньня на Глыбоччыне Аляксандар Лапацінскі. Мураўёў асабіста распачаў яго катаваньні ў падзямельлях кляштара. Гэтыя катаваньні мелі за сваю мэту даведацца пра іншых паўстанцаў. Аднак катаваньні Лапацінскага не прынесьлі дастатковых інфармацый. У тым часе ў кляштарныя падзямельлі патрапілі і іншыя паўстанцы, а сярод іх злоўлены ў лясах каля Глыбокага сакратар паўстаньня айцец Адам Татур, піяр, які перад гэтым спаліў усе дакумэнты паўстаньня, каб яны не дасталіся ў рукі Мураўёву. Аднак Мураўёў, нягледзячы на тое, што Татур быў манахам, распачаў яго катаваньні, якія былі вельмі розныя, пачынаючы ад біцьця палкай да дыбы, пугі,ціскоў на ногі і рукі, агня і гд. Акрамя таго існаваў яшчэ і псіхалагічны фактар – Мураўёў праводзіў катаваньні ў крыпце, каля якой знаходзіўся наступны паўстанец. Такім чынам, той, каго меліся катаваць, чуў таксама, як катавалі яго папярэдніка, чуў яго крыкі і сьлёзы, таму мог прызнацца ва ўсім нават без катаваньняў.



**Генэрал М. Мураўёў – «Вешальнік».**

Падчас катаваньняў Мураўёў задаваў 25 пытаньняў для шляхціцаў і духавенства і 6 пытаньняў для сялян і мяшчан. Звычайнай практыкай Мураўёва, як апавядалі яго былыя вязьні, было даваньне для падпісаньня дакумэнтаў падчас катаваньня без мажлівасьці іх прачытаньня. Таму ўсе глыбоцкія вязьні патрапілі ў розныя турмы, бо амаль усе падпісваліся пад дакумэнтамі, прызнаючы свой удзел у паўстаньні.

Катаваньні айца Татура прынесьлі свой плён, падчас жудасных цярпеньняў ён выдаў амаль усіх удзельнікаў паўстаньня, аднак зазначыў, што і сам адыграў значную ролю. Акрамя таго былі катаваныя і глыбоцкія мяшчане: Пілецкі і Антоні Адынец. Быў катаваны таксама і ўладальнік Псуі і Плісы – Рамуальд Падбіпента. Пасьля катаваньняў замучаных паўстанцаў Мураўёў адсылаў з Глыбокага ў розныя турмы, некаторыя з нашых землякоў не пражылі і года, памершы ў вязьніцы ў Дынабургу, а сярод іх: Алойзы Буйніцкі, Станіслаў Клёт і Бэнэдыкт Клёт, а таксама сялянін Дамінік Мядзьведзеў. Некаторыя патрапілі аж у турму ў Бабруйску: кс. Яленскі, кс. Заленскі і кс. Татур.

Акрамя катаваньняў Мураўёў карыстаўся паслугамі данасіцеляў. Адным зь іх быў Адольф Багуцкі, які сам прыбыў да Мураўёва і прызнаўся ва ўдзеле ў паўстаньні, выдаючы ўсіх паўстанцаў, якіх здолеў пазнаць. Мураўёў сам акрэсьліў працу Багуцкага наступным чынам: “Выдаў ён усе сакрэты і прысягі”. Акрамя таго данасіцелем быў расейскі чыноўнік з Дзісны, які трапіў у палон да паўстанцаў – Антон Сьвятагор, выдаў ён усіх паўстанцаў, якіх пазнаў. Жадаў за гэта ад Мураўёва ўзнагароды, а акрамя таго дамагаўся грошай ад сямей паўстанцаў за сваё маўчаньне, адначасова выдаючы іх родных Мураўёву.

Данасіцелямі на паўстанцаў былі таксама глыбоцкія габрэі, у якіх паўстанцы куплялі порах. Гэтыя габрэі выдалі Мураўёву ўсіх сваіх пакупнікоў. Найбольш Мураўёву прыслужыўся габрэй Фруман з Глыбокага. Як бачна, глыбоцкія габрэі ўжо не першы раз аказаліся паплечнікамі расейцаў. Менавіта габрэі былі найвялікшымі мясцовымі праціўнікамі адраджэньня Рэчы Паспалітай. Менавіта глыбоцкія габрэі даносілі расейскім уладам на паўстанцаў Т. Касьцюшкі, на тых, хто ваяваў па баку Напалеона і таксама цяпер, на тых, хто хацеў вызваліць сваю радзіму ад расейскай акупацыі.

Данасіцелямі на паўстанцаў былі таксама і самі паўстанцы. Сярод іх маршалак дзісьненскай шляхты Ігнацы Лапацінскі, родзіч Казіміра, Язэпа і Аляксандра Лапацінскіх – найвялікшых патрыётаў. Як бачна, нават у адной сям’і маглі знайсьціся данасіцелі, якія даносілі нават на сваіх братоў. Сам Ігнацы Лапацінскі прыняў удзел у паўстаньні, але калі заўважыў, што няма посьпехаў, то адразу перайшоў на бок Мураўёва, выдаючы нават родных братоў. Ігнацы Лапацінскі прыбыў да Глыбокага, дзе дзякаваў Мураўёву за яго ласкавасьць і дабрадзействы. Мураўёў вельмі любіў такіх людзей як Ігнацы Лапацінскі, таму пакінуў яго і на далей маршалкам шляхты, а таксама прызначыў яго камэрюнкерам двору і адзначыў яго ордэнам сьв. Уладзіміра 4 ступені.

Як бачна, сітуацыя пасьля паўстаньня была вельмі складанай для жыхароў Глыбоччыны. Мураўёў стварыў таксама данасіцельскую паліцыйную арганізацыю пад кіраўніцтвам капітана Аляксандрава, якія меліся даносіць на тых паўстанцаў, якія схаваліся.

Шмат нашых землякоў, баючыся катаваньняў Мураўёва, уцякло ў Прусію, а менавіта: Якуб Цыбульскі, Леапольд Клёт, Міхал Сямашка, Вінцэнты Брахоцкі і Станіслаў Радзішэўскі. З Прусіі яны выслалі просьбу аб памілаваньні, каб была магчымасьць вяртання на Глыбоччыну, аднак у памілаваньні ім было адмоўлена. Іншыя паўстанцы выехалі ў Францыю: Радзішэўскі, Рыпінскі[3], Валадковіч, Лапацінскія, Кеневіч, Уладыслаў Плятэр і Валяр’ян Пяткевіч. Некаторыя паўстанцы выехалі ў Амэрыку: Антоні Корсак, Язэп Астроўскі, Ян Садоўскі.

Акрамя таго за ўдзел у паўстаньні ў некаторых паўстанцаў была канфіскаваная маёмасьць (у Міхала Сямашкі канфіскавалі палову маёнтка Ляхаўшчына). Некаторыя павінныя былі плаціць штрафы: Язьвінскі, Радзевіч.

Пасьля свайго бязьлітаснага сьледства ў Глыбокім Мураўёў перадаў усе акты ў Мінскую Сьледчую Камісію. Усяго ў вязьніцу патрапіла 407 чалавек. Памілаваньне атрымалі:

1. Міхал Храпавіцкі.
2. Антоні Дабашынскі[4].
3. Ёахім Дабашынскі[4].
4. Адольф Канаплянскі.
5. Гэнрык Канаплянскі.
6. Каетан Карказевіч.
7. Ігнацы Корсак
8. Язэп Корсак
9. Люц’ян Корсак
10. Адольф Мсьціхоўскі.
11. Антоні Петрыгоўскі.
12. Гэнрык Станевіч.

Падсумоўваючы, варта зазначыць, што дзейнасьць Мураўёва вельмі моцна пахіснула глыбоцкі патрыятызм, шмат мясцовых трапіла ў вязьніцу, некаторых выслалі ў Сібір, у некаторых забралі маёмасьць, некаторыя павінны былі плаціць штрафы, яшчэ іншыя выехалі за мяжу – усё гэта было вялікім коштам за мару аб адраджэньні Рэчы Паспалітай. Кляштарныя муры сталіся такім чынам нямым сьведкам крыві, мук і цярпеньня нашых хвалебных суайчыннікаў.

Наведваючы глыбоцкі кляштар Кармэлітаў босых, варта ня толькі захапляцца яго архітэктурнай прыгажосьцю і дзейнасьцю манахаў, але таксама памятаць аб тых, хто там быў закатаваны і для якіх падзямельлі сталіся Галгофай патрыятычных мараў. Памятайма, што гэты храм зьяўляецца ня толькі сымбалем веры, але таксама і штандарам патрыятычнай дзейнасьці нашых продкаў на шляху здабываньня незалежнасьці.

***Працяг будзе.***

**Заўвагі рэдакцыі:**

[1] Да 1840 г. сёньняшняя Беларусь менавалася Літвой, літвінамі называлі цяперашніх беларусаў. Царскаму ўраду вельмі не падабаўся ваяўнічы нораў літвінаў (удзел у паўстаньні Касьцюшкі, удзел вайсковых фармаванняў літвінаў у паходзе Напалеона на Маскву, удзел у паўстаньні 1830-31 гг), таму, абы пазбавіць літвінаў гістарычнае памяці, Літва была перайменавана ў Беларусь, а літвіны ў беларусаў.

Напрыканцы XIX – пач.XX стст гэтай акалічнасьцю скарысталіся жамойты (альбо жмудзіны), якія забралі сабе не толькі назоў Літва, але фактычна і ўсю 1000-гадовую гісторыю ВКЛ і яе сталіцу Вільню.

[2] Мураўёў быў уражлівы ў сэнсе: як хтосьці прызнаваўся, плакаў, падпісваўся пад дакумэнтамі – ён часамі такіх людзей мілаваў, але тых, хто быў моцны, не паддаваўся на катаваньні, то такіх ён мучыў бяз літасьці.

[3] Аляксандар Феліксавіч Рыпінскі (па-польску: Alexander Rypiński; 10 ліпеня 1809, в. Кукавячына, Віцебскі павет (цяпер — Віцебскі раён) — каля 1900, маёнтак Страганы, цяпер — Лёзьненскі раён) — польскі і беларускі этнограф, фальклярыст, паэт, пэдагог, гісторык, мастак-графік, друкар і выдавец; удзельнік паўстаньня 1830-1831 гг.

[4] Дабашынскія валодалі маёнткам Барыскавічы каля Прошкава, а таксама іншымі фальваркамі ў гэтай мясцовасьці.



**Дыба і пуга.**



**Ціскі для пальцаў.**



**Катаваньні агнём.**



**Ціскі для ног.**

# У перыяд нерасту актывізуюцца браканьеры

■ А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**З наступам вясны ў прыродзе ўсё ажывае, прылятаюць першыя вясновыя птушкі, звяры рыхтуюцца да выводзін нашчадства, рыбы - да нерасту. У гэты перыяд на тэрыторыі ўсёй рэспублікі Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя ўводзяцца вызначаныя абмежаванні і забарона на прамысловую і аматарскую лоўлю.**

Вылоўліванне ўсіх відаў рыбы забараняецца з 1 красавіка па 30 траўня, за выключэннем аматарскага рыбалоўства, якое здзяйсняецца адной вудай з адным кручком ці адным спінінгам, у светлы час сутак з берага без заходу ў ваду. Ва ўказаны перыяд часу ўводзяцца асобныя абмежаванні толькі на перыяд нерасту, напрыклад – выкарыстанне грамадзянамі маламерных судоў.

У перыяд забароны і нерасту рыбы ўрон за незаконна здабытую рыбу разлічваецца ў 3-х кратным памеры яе кошту. Так, кошт 1 шчупака незалежна ад яго памеру складае 100 тыс. рублёў (з 1 красавіка), у перыяд забароны 300 тыс. рублёў.

Як паказала практыка мінулых гадоў, у перыяд вясновага нерасту рыбы актывізуюцца браканьеры. Карыстаючыся тым, што рыба ў дадзены перыяд часу актыўная, не вельмі асцярожная, у сувязі з нерастам, браканьеры рознымі варварскімі спосабамі спрабуюць налавіць больш, не думаючы пра наступствы.

Сёлета супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі сумесна з усімі зацікаўленымі структурамі, ведамствамі, грамадзянамі праводзяцца мерапрыемствы па спыненні фактаў браканьерства ў перыяд нерасту рыбы, да парушальнікаў закона будуць ужывацца самыя цвёрдыя меры адказнасці, а рубрыка пра затрыманні браканьераў, рэгулярна выходзіць у раённых сродках масавай інфармацыі з указаннем прозвішчаў «герояў нашага часу».

Толькі ў перыяд з 26 сакавіка па 30 сакавіка супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайіспекцыі за незаконную здабычу шчупака забароненымі прыладамі рыбалоўства затрымалі 4 грамадзян, канфіскавалі сеткі, мярожы, восці.

Так, 27 сакавіка інспектарамі міжрайінспекцыі на рацэ Мнюта паблізу в. Вялец Глыбоцкага раёна затрыманы 2 мясцовыя жыхары, якія пры дапамозе сеткі і мярожаў здабывалі шчупака. Пасплі здабыць усяго толькі адну невялікую асобіну шчупака, але пакаранне за парушэнне будзе не маленькім.

28 сакавіка 2012 года ў Глыбоцкую міжрайінспекцыю паступіла паведамленне ад грамадзян пра тое, што на рацэ Бярозаўка паблізу в. Боўкалы Шаркоўшчынскага раёна мясцовы жыхар гр-н К. незаконна ловіць шчупака мярожамі. Для праверкі інфармацыі неадкладна была накіравана рэйдавая група з супрацоўнікаў міжрайінспекцыі і Глыбоцкага аддзела Дэпартамента «Ахова». Супрацоўнікі міліцыі актыўна аказваюць дапамогу інспекцыі ў барацьбе з браканьерамі. Пры абследаванні мясцовасці паблізу в. Болкалы было выяўлена месца ўсталёўкі мярожы, а неўзабаве з'явіўся і гаспадар браканьерскай снасці, ды не адзін, з непаўналетнім сынам:. Сам, грамадзянін К. мярожу даставаць не стаў, а толькі даваў указанні, але бачачы, што сын не можа зладзіцца з мярожай, вырашыў дапамагчы. Дастаў з мярожы шчупака, усталяваў мярожу ізноў у раку, але далей яго дзеянні перапыніла рэйдавая група.

Грамадзянін К. упэўнена заявіў, што ён тут ні прычым, гэта ўсё яго сын, а што з непаўналетнім зробіш. Але не разумее дарослы дзядзька, што адказваць прыйдзецца і яму не толькі за браканьерства, але і за сына.

26 сакавіка 2012 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі была атрымана інфармацыя пра незаконную высечку дрэў паблізу г. Паставы. Правёўшы шэраг мерапрыемстваў, абследаваўшы значную лясную тэрыторыю, супрацоўнікі інспекцыі знайшлі не толькі месца незаконнай парубкі дрэў, дуба, ліпы, клёну, алешыны чорнай, але і змаглі ўсталяваць парушальніка, грамадзяніна Л., жыхара адной з вёсак. Грамадзянін Л. высек 14 куб.м. драўніны каштоўных парод, без якіх на тое дакументаў, урон, прычынены прыродзе, склаў 5 млн. 543 тысячы рублёў, плюс штраф.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету заклікае грамадзян актыўна дапамагаць супрацоўнікам у спыненні фактаў браканьерства, бо толькі з вашай дапамогай, неабыякавых да нашай прыроды людзей, мы зможам паставіць надзейны заслон браканьерам. Мы заўсёды гатовыя да супрацоўніцтва.

**Тэлефоны «гарачай лініі» кругласутачна : 2-86-70 897-23-02 (МТС), 890-55-28 (МТС), 249-45-49 (МТС).**

Будзем удзячныя за любую дапамогу ў ахове прыродных рэсурсаў нашай краіны.

## Віншаванкі

*Вольгу Васілеўну Парфяновіч*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Будь самой веселой и самой счастливой,
Хорошей и нежной, и самой красивой.
Будь самой внимательной, самой любимой,
Простой, обоятельной, неповторимой,
И доброй, и строгой, и слабой, и сильной,
Пусть беды уходят с дороги в бессилье.
Пусть сбудется всё, что ты хочешь сама,
Любви тебе, веры, надежды, добра!



*Калектыў "ВГ"*

*Святлану Уладзіміраўну Стоцік*

**Віншуем з юбілеем!**

В такие праздничные дни
Термометр должен постараться:
На солнце тридцать пять; в тени –
Лишь восемнадцать да семнадцать…
Погода – чудо: лишь одной
Тебе сегодня солнце светит –
Прошло ненастье стороной,
Пусть радость все твою заметят!
Наполни счастьем каждый день
От жажды жизни не хмелея!
Ты наше счастье! К чёрту тень!
Будь счастлива! И – с юбилеем!



*Брат і яго сям'я.*

*Барыса Васільевіча Парфяновіча*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Пускай здоровье будет крепким,
А сердце вечно молодым!
Пусть каждый день твой будет светлым
На радость нам и всем родным!
Спешим поздравить с днем рожденья!
Желаем счастья, настроенья,
Успеха, бодрости, удачи,
Здоровья крепкого в придачу.



*Родныя.*

## МНС інфармуе
**на 03.04.2012 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 380;
Гібель людзей – 61, з іх 3 дзіцяці;
Урон – 2060,7 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 21;
Гібель людзей – 5, з іх дзяцей няма;
Урон – 121 550 000 руб.

# Забяспечце электрабяспеку на будаўнічых пляцоўках!

■ Бекіш А.А.,
*інспектар электрагрупы Глыбоцкага МРА «Энерганагляд».*

**Будаўнічыя пляцоўкі характарызуюцца высокай ступенню небяспекі паражэння электрычным токам.**

Такое становішча тлумачыцца тым, што электраправодкі, якія ўжываюцца на будпляцоўках, з'яўляюцца часовымі, а эксплуатацыя электраабсталявання вядзецца ў асоба небяспечных, з пункту гледжання электрабяспекі, умовах.

Пры гэтым большасць машын, прыбораў і ручнога электраінструменту выкарыстоўваюцца ў неабароненым ад пагодных умоў асяроддзі. Ужыванне пераносных кабеляў, пракладзеных непасрэдна па зямлі, абумаўляе высокую ступень верагоднасці іх механічнага пашкоджання. З прычыны парушэння цэласнасці ахоўнай абалонкі кабеля ўзнікае рэальная пагроза жыцця людзей, якія могуць дакрануцца да адкрытай праводзячай частцы абсталявання, што сілкуецца пашкоджаным кабелем.

Часта, пасля допуску электраўстановак будпляцовак у эксплуатацыю, будаўнічая арганізацыя самавольна і з парушэннем «Правілаў устройства электраўстановак» падключае дадатковыя адзінкі абсталявання (бетонамяшалкі, прылады падагрэву вады і бетону, вагоны-бытоўкі і г.д.), усталёўвае электраабагравальнікі і пераносныя свяцільні не завадскога вырабу.

Так, пры расследаванні няшчаснага выпадку са смяротным зыходам, які адбыўся з навучэнцам УА «Магілёўскі дзяржаўны прафесійны ліцэй №1», прынятым на перыяд вытворчай практыкі на працу ў ГУКДСП «ПМК-284» ГУКПП «Магілёўаблсельбуд» было ўсталявана, што падключэнне тынкавай станцыі не забяспечвала абарону ад токаў кароткага замыкання, прадугледжаных праектным рашэннем, а таксама адсутнічала прылады ахоўнага адключэння, што рэагуе на дыферэнцыяльны ток. Небяспечны вытворчы фактар – наяўнасць напругі на металічнай канструкцыі ва ўмовах асаблівай небяспекі ў адносінах паражэння электрычным токам.

Другі няшчасны выпадак са смяротным зыходам, які адбыўся 27.10.2011 года з тынкоўшчыкам-маляром ТАА «Салбудкамплект» г. Салігорска Мінскай вобласці на аб'екце «Цэнтр вольнага часу моладзі», які будуецца. Пацярпелая для асвятлення працоўнага месца выкарыстоўвала самаробную прыладу, якая складаецца з галагенавага пражэктара з металічным корпусам без ахоўнага шкла (напруга 220 В). Пражэктар быў падключаны двухжыльным праводам да падаўжальніка, які быў падключаны ад аднапалюснага аўтаматычнага выключальніка, усталяванага ва ўваднай размеркавальнай прыладзе будпляцоўкі. З прычыны дрэннай ізаляцыі провада, які сілкаваў галагенавую лямпу, металічны корпус самаробнага пражэктара апынуўся пад напругай. Чыннікам няшчаснага выпадку паслужыла выкарыстанне пераноснай свяцільні не завадскога вырабу ў памяшканні з павышанай небяспекай напругай вышэй 42 В.

У чэрвені-жніўні 2011 года філіялам «Энерганагляд» быў праведзены месячнік нагляду і кантролю за выкананнем здаровых і бяспечных умоў працы на будаўнічых аб'ектах і ў будаўнічых арганізацыях раёна. Пры гэтым былі выяўлены наступныя характэрныя парушэнні:

- не абаронены адкрытыя токаводныя часткі ад выпадковага дакранання;
- не заземлены (не занулены) часткі, якія падлягаюць зазямленню (зануленню);
- пашкоджана ізаляцыя сілкавальных кабеляў;
- не праведзены альбо мінуў тэрмін электрафізічных вымярэнняў і выпрабаванняў абсталявання.

З мэтай забеспячэння электра- і пажарабяспекі пры устройстве электраўстановак будаўнічых пляцовак Энерганагляд папярэджвае:

**1.** Для допуску ў эксплуатацыю прад'яўляць усе падлучальныя электраўстаноўкі, уключаючы электраўстаноўкі субпадрадных арганізацый.

**2.** Забараніць установку і падключэнне электраабсталявання, не прадугледжанага праектам і эксплуатацыю тэхніча няспраўных і не допушчаных у эксплуатацыю электраўстановак.

**3.** Для абароны электраўстановак вагонаў-бытовак ужываць дыферэнцыяльныя аўтаматы (АД12, АД14), якія маюць абарону чалавека ад паражэння электрычным токам пры выпадковым дакрананні да токаводных частак электраўстановак у выпадку пашкоджання ізаляцыі; ад узнікнення пажараў з прычыны праходжання токаў уцечкі на зямлю; ад перагрузкі і кароткага замыкання.

**4.** Пры выкарыстанні УЗО (ВД-1, УЗО-2Р «Шчыт», УЗО-01-4 «ДЭК») прадугледжваць установку засцерагальніка ці аўтаматычнага выключальніка для абароны ад перагрузкі і звыштокаў.

**5.** Праводзіць праверку працаздольнасці УЗО не радзей 1 разу ў квартал і заўсёды да ўключэння.

**6.** Праводзіць неабходныя электрафізічныя вымярэнні і выпрабаванні абсталявання.




**УЗО** (устройство защитного отключения).

